Цана 15 гр. „Biełaruski Front“ 1 sierpnia 1939 r. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 15 (49) Вільня, 1 жніўня 1939 г. Год IV

## ОЗОН АБ „УСХОДНЯЙ КВЭСТЫІ“

У той час, калі гэн. Жэлігоўскі друкуе свае артыкулы аб славянскай ідэі, польская озонаўская прэса і, натуральна, эндэцкая зьмяшчае іншыя артыкулы, зь якіх можна даведацца, як гэта „славянская“ ідэя мае выглядаць у практыцы. Гэтак, надовячы (19.VII с.), орган віленскага Озону „Goniec Poranny“ зьмясьціў даўгую перадавіцу п. наз. „O dynamiczny, długofalowy program wschodni“, у якой разьвівае тэзы „правільнай“ польскай палітыкі на ўсходніх землях, а значыцца і адносна беларусаў. Якія-ж гэта тэзы?

Перш за ўсё артыкул кажа памятаць, што ўсходнія землі, *„незалежна ад тых ці іншых нацыянальных конглёмэратаў на іх жывучых, былі, ёсьць і будуць назаўсёды польскімі.* Аб польскасьці ўсходніх земляў сьведчаць: „мільённыя могілкі польскага жаўнера, тысячныя памяткі польскай культуры, густа раскінутыя ўздоўж усходняга пагранічча, а ў канцы шматвяковая праца польскага земляроба, каторы пераараў гэтыя землі ўздоўж і папярок“. Орган Озону уважае, што пералічанага хопіць, каб праканацца ў польскасьці ўсходніх земляў і снуе далейшыя вывады. Ён кажа, што дзеля ўзмацаваньня ўсходніх граніцаў трэба *ў шмат разоў павялічыць тут польскасьць, каб усходняя „квэстыя“ назаўсёды перастала існаваць у Польшчы“.* Патрабуе гэта падрабязнага апрацаваньня „дынамічнай, доўгахвалёвай“ праграмы. Гэта цяжкое заданьне і аўтар артыкулу не бярэцца сам за апрацоўку праграмы. Ён толькі паказвае, у якіх практычна кірунках праграма павінна ісьці. Трэба ўрэгуляваць з аднаго боку сужыцьцё з нац. меншасьцямі на ўсходзе (у нас з беларусамі — *рэд.),* а з другога *„збудаваць на ўсей усходняй граніцы магутныя ваенныя фортыфікацыі, узмагчы вялізарны, бязупынны даплыў польскага асадніцтва ў шырокай, прынамся стакілёмэтровай прыгранічнай стрэфе, скіраваць на ўсходнія землі магчыма найбольш грунтоўна вымуштраваных маладых піонэраў рэлігіі, культуры, асьветы, гандлю, каапэрацыі і рамясла.* А ўсяму гэтаму павінна верхаводзіць думка *„аб гэткім напаўненьні („nasycenie“) ўсходніх земляў польскасьцю, каб польскасьць і толькі польскасьць надавала гэтым землям асноўны і бязсумлеўны тон і характар“.*

Гэткім парадкам з ўсходніх земляў быўбы створаны „магутны бастыён польскасьці, нявычарпальнае жарало вернага, аддадзенага Польшчы жаўнера“.

Гэтак мае выглядаць рэалізацыя озонаўскай праграмы адносна ўсходніх земляў. Дасюлешнюю польскую палітыку на ўсходзе, паводле артыкулу, трэба як найхутчэй зьмяніць, бо яна ня мела пляну і вялася „ад ваяводы да ваяводы, ад міністра да міністра“. Чакаць з гэтым немагчыма ані хвіліны. Іменна цяпер, калі на заходнія граніцы Польшчы адбываецца нямецкі націск, перадавіца озонаўскага органу заклікае да рэалізацыі свайго пляну на ўсходніх землях, бо „заходняя небясьпека павінна зьвярнуць нашу (польскую — *рэд.)* ўвагу перш за ўсё на ўсход“.

Гэты артыкул знайшоў водгукі ў варшаўскай озонаўскай прэсе, дзеля чаго не памылімся, калі прымем яго за афіцыяльную праграму Озону адносна беларускага пытаньня, бо прэса партыі адбівае яе пагляды.

Як бачым, справа пастаўлена ясна і ніхто з беларусаў хіба ня будзе мець ніякіх сумлеваў адносна озонаўскага вырашэньня беларускага пытаньня. З прычыны цэнзурных варункаў мы ня можам заняцца крытыкай гэтай праграмы, зьвернем толькі ўвагу на тры мамэнты, каторыя самі сабой насоўваюцца пры ўважным чытаньні гэтае праграмы.

Перш за ўсё озонаўскі орган ўжо не здавальняецца ліквідацыяй праяваў беларускага руху і пашырэньнем польскіх ўплываў *палітычных і культурных* сярод беларускага народу, а выразна гаворыць і аб неабходнасьці апанаваньня палякамі *гаспадарскага* жыцьця на ўсходніх землях. Новы вялізарны і бязупынны наплыў польскага асадніцтва „прынамся ў стакіляметровым прыгранічным пасе“ мае на мэце зьмену нацыянальнага аблічча гэтай стрэфы. Цікава толькі, ці новыя масы асаднікаў атрымоўваліб зямлю выключна з двароў (у дварох-жа сядзяць польскія паны!), ці можа озонаўскі орган, імкнучыся да спольшчаньня краю, мае іншыя пляны здабыцьця колёнізацыйнага абшару, пакідаючы польскім уласьнікам іхнія двары? Наплыў польскіх гандляроў, рамесьнікаў, каапэратараў, ясна, патрэбны дзеля спольшчаньня гэтых галін гаспадаркі.

Другім цікавым мамэнтам ёсьць тэза аб бесьпляновасьці і хістаньні польскай палітыкі на ўсходзе за апошнія 20 гадоў. Нават палітыку ваяводы Бацянскага ў Віленшчыне і Костка-Бернацкага на Палесьсі аўтар ня лічыў за патрэбнае падчыркнуць як дадатняй з глядзішча пашырэньня польскасьці на ўсходзе. Мы гэтай бесьпляновасьці або хістаньня польскай палітыкі тут у нас ніколі ня бачылі. За ўсе дваццаць мінулых гадоў польская палітыка на ўсходніх землях, дзе жывуць беларусы, была выняткова консэквэнтнай і плянова йшла ў кірунку ліквідацыі беларушчыны і пашырэньня польскасьці. Хай озонаўскі орган назаве хоць аднаго ваяводу або прэм'ера, пры якім штоколечы беларускае ня было зьліквідавана. Розьніца была толькі ў тэмпе ліквідацыі беларушчыны і пашырэньня польскасьці. А гэтага хіба ніяк немагчыма ідэнтыфікаваць з бесьпляновасьцю польскай палітыкі на ўсходніх землях.

Напасьледак трэцім высновам з цытаванага артыкулу будзе цьверджаньне, што дасюлешняя польская палітыка на ўсходзе не дала чаканых рэзультатаў. Бо калі озонаўскі аўтар кажа, што толькі ў прыпадку зьдзейсьненьня яго праграмы з усходніх земляў будзе зроблены „бастыён польскасьці“, дык з гэтага сам сабой выплывае выснаў, што ўсходнія землі дагэтуль бастыёнам польскасьці не зьяўляюцца. Аўтар артыкулу сам у гэтым пераканаНы і, здаецца, тут трэба шукаць асноў да яго тэзы аб „бесьпляновасьці“ дасюлешняй польскай палітыкі. Озонаўскі орган, напэўна, дасканальна ведае сутнасьць польскай палітыкі на „крэсах“ і зь ёй згаджаецца. Толькі як убачыў, што палітыка гэтая дае малыя рэзультаты (калі, наагул, яны ёсьць), дык каб іх апраўдаць, скідае віну на „бесьпляновасьць“ польскай палітыкі, прапануючы „новую“ праграму. Гэта „новая“ праграма зьяўляецца тэй-жа „старой“, толькі больш завостранай, што і зразумела, бо озонаўскі аўтар зусім ня зьбіраецца яе мяняць на іншую. Яму йдзе толькі аб выясьненьне патрэбы яе контынуаваньня і падтрыманьне надзеі, што ў „новай“ форме пры „пляновым“ праводжаньні яна прынясе доўга чаканыя плады.

Як мы бачылі, аўтар, у сваіх плянах успомніў і аб патрэбе ўрэгуляваньня адносінаў з нац. меншасьцямі на ўсходніх землях, але ня выясьніў, як гэта мае выглядаць. Ды выясьненьне і не патрэбна: далейшае разьвіцьцё „праграмы“ дае ясны адказ.

Гэтак выглядаюць асновы „новай“ польскай праграмы паводле „Gon. Por.“. Ідзе нам аб тое, каб бел. грамадзянства добра пазнаёмілася з гэтай праграмай, з намерамі Озону адносна беларусаў. З свайго боку, ацэньваючы гэтыя натугі озонаўскага палітыка можам сказаць, што і яго „праграма“ напэўна ня зьдзейсьніць яго лятуценьняў.

—·—

## І.VIII.1914 г. — Палітыка Англіі.

1.VIII. с. мінула 25 гадоў ад выбуху сусьветнай вайны. Прэса ўсяго сьвету прысьвячае гэтаму сумнаму „юбілею“ шмат увагі, тым больш, што чалавецтва стаіць на пярэдадні новай сусьветнай вайны.

Прыномнім сілы, прыймаўшыя ўчасьце ў вайне 1914—1917 г. і панесеныя страты. **Коаліцыя процінямецкая.** Англія змабілізавала 9.275.000 людзей, агульныя страты 2.700.000, з чаго забітых 870.000; Францыя паклікала 8.317.000, страты 5.000.000, з чаго забітых 1.383.000; Італія змабілізавала 5.250.000, страты — 1.445.000, з чаго забітых было 496.000; Зл. Шт. Амэрыкі змабілізавалі 3.483.000, забітых мелі 114.000; Расея паклікала 15.120.000, агульныя страты 7.000.000, з чаго $^{1}/_{3}$ забітых; Румынія мела 1.000.000 войска, забітых 160.000; Сэрбія змабілізавала 1.000.000, забітых 300.000; Бэльгія паклікала 365.000, забітых 44.000. **Коаліцыя нямецкая.** Нямеччына змабілізавала агул. 13.250.000, страты 7.120.000, з чаго 1.843.000 забітых; Аўстрыя мела 9.000.000, агульныя страты каля 5.000.000, з якіх 1.700.000 забітых; Баўгарыя

змабілізавала 1.000.000, агульныя страты 250.000; Турцыя з 2.850.000 пакліканых страціла 325.000 забітымі, агульныя яе страты каля 2.500.000.

Агулам у часе сусьветнай вайны было пад аружжам 80 мільёнаў войска, а забітых каля 10 мільёнаў. Кошты вайны абедзьвюх старон 1.175 мільярдаў залатых франкаў, з чаго коаліцыя процінямецкая мела 795 мільярдаў, а нямецкая 380 мільярдаў (зал. франк = 1,72 злотых польск.). Тут мы пакінулі сілы дробных дзяржаў, як Грэцыя, Португалія і інш., якія таксама ваявалі з Нямеччынай.

Беларускі народ, хоць прымушаны быў змагацца за чужую справу, панёс таксама вялікія страты. Беларусы ваявалі ў расейскай арміі. З прапорцыянальнага аблічэньня можна прыняць, што беларусаў было змабілізавана ня менш мільёна, а страты даходзілі да 500.000. Апрача таго, беларусы мелі вялікія матарыяльныя страты. Па тэрыторыі Беларусі пераваьваліся мільённыя нямецка-расейскія арміі ў сьмяротных змаганьнях з сабой. Вайна й уцякацтва зьнішчылі край. Усе гэтыя страты аказаліся бескарыснымі, бо ўжо на другі дзень пасьля замірэньня былі паложаны асновы да новай сусьветнай вайны, якая, няведама калі, але напэўна будзе. Наш народ у выніку сусьветнай вайны знайшоўся ў нябывала цяжкім палажэньні. Беларусь аказалася падзеленай між трамя дзяржавамі. Але трэба сказаць, што сусьветная вайна лучна з расейскай рэвалюцыяй, ускалыхнула нашай спаўшай да вайны масай. Бел. народ зажадаў для сябе роўных правоў з іншымі народамі. І хоць гэта ня зьдзейсьнілася, а аб'ектыўна бяручы варункі жыцьця народу пагоршыліся, дык усё-ж адно можна сказаць, што бел. народ да сну палажыцца ўжо напэўна ня дасца. У гэтым ляжыць адзінае дадатнае значэньне панесеных нашым народам страт у сусьветную вайну.

* * *

Розна ацэньваюць цяперашнюю антынямецкую палітыку Англіі. Адны кажуць, што Англія пакінула сваю дасюляшнюю палітыку ізаляцыі ад сярэдня-эўрапэйскіх спраў і ўжо рашылася на вайну з Нямеччынай у прыпадку, калі апошняя шляхам агрэсіі будзе пашыраць свой „жыцьцёвы прастор“. Як на доказы гэтай зьмены англійскай палітыкі паклікаюцца: на дадзеныя Англіяй Польшчы, Румыніі і Грэцыі гваранцыі іхняй незалежнасьці; на рашучыя прамовы Чэмбэрлена і Галіфакса ў справе Гданска; на ўзрост англійскага ўваружэньня; на ліквідацыю канфлікту зь Японіяй, каторай Англія зрабіла вялікія ўступкі, каб мець свабодныя рукі ў Эўропе; на жаданьне Англіі дагаварыцца з Саветамі ў справе ваеннага зь імі саюзу супроць Нямеччыны. Усё гэта мае сьведчыць аб тым, што Англія арганізуе процінямецкую коаліцыю і зьяўляецца яе душой і гатова на вайну. Побач з гэтым чуюцца галасы, што пакуль англійскай палітыкай кіруе Чэмбэрлен і наагул „мюнхэнскія“ палітыкі, ня можна быць пэўным, што Англія датрымае свайго слова і ня пойдзе на згоду з Нямеччынай чужым коштам. Прыхільнікі гэткага пагляду кажуць, што калі-б Чэмбэрлен сапраўды думаў аб вайне з Нямеччынай, дык ён не цягнуўбы перагавораў з Масквой, а згадзіўся-б на яе варункі, увёўбы ў свой урад здэцыдаваных прыхільнікаў вайны Чэрчыля і Ідэна, ня йшоўбы на згоду з Японіяй, каторая гуляе ў вадну руку з Бэрлінам і Рымам, не таргаваўся-б у справе пазыкі Польшчы, якая ёй была абяцана. Напасьледак паклікаюцца на найважнейшы аргумэнт — таёмныя гутаркі англійскіх міністраў з прадстаўнікамі Нямеччыны, якія адбываюцца „за плячамі“ Чэмбэрлена. Усё гэта, кажуць, выклікае паважныя сумлівы што да шчырасьці Чэмбэрлена і прымушае аднасіцца з вялікімі засьцярогамі да яго палітыкі.

Першага пагляду трымаецца амаль уся польская прэса, другі ня мае шмат прадстаўнікоў і яго рэпрэзэнтуе галоўна „Czarno na białem“ — орган левых пілсудчыкаў.

Цікавы пагляд на палітыку Англіі выказвае „Kurier Polski“ — орган цяжкога польскага промыслу. „К. Р.“ кажа, што Чэмбэрлен аканчальна здэцыдаваўся на вайну з Нямеччынай яшчэ ў мінулым годзе, у часе чэхаславацкіх падзеяў. Аднак, ведаючы, што ані Англія, ані Францыя не падгатаваны належна да вайны, пастанавіў адцягнуць яе магчыма далей, хоць-бы на пару гадоў, пакуль ня ўдасца дагнаць Нямеччыну ў ваеннай прадукцыі і скалаціць супроць яе магутную коаліцыю. Каб здабыць гэты час, Чэмбэрлен ахвяраваў Чэхаславаччыну, стараўся і стараецца не парываць сувязі з Нямяччынай, робіць ей карысныя прапазыкі, заклікае на канфэрэнцыі, дзе будуць даўгія дыскусіі, а тымчасам англійскія і францускія ваенныя фабрыкі працуюць дзень і ноч, а ваенныя буджэты Англіі і Францыі павялічаны да астранамічных цыфраў.

Калі Англія і Францыя дагоняць Нямеччыну ў ваеннай прадукцыі ды зарганізуюць у міжчасе процінямецкую коаліцыю, тады Чэмбэрлен зажадае, каб Ням. ясна выбрала вайну ці капітуляцыю. Вось калі — дадае „К. Р.“ — будзе ведама, хто перамог у Чэхаславаччыне — Чэмбэрлен ці Гітлер. А пакуль Англія не ўваружыцца, новыя ўступкі зь яе боку магчымы...

Каторы з гэтых пагляд аў адказвае сапраўдным намерам англійскай палітыкі — згадаць трудна. Усё-ж, здаецца, што шмат рацыі мае „Czarno na białem“, калі кажа, што да палітыкі і абяцаньняў Чэмбэрлена трэба аднасіцца асьцярожна. З гэтага гледзішча вельмі цікавым ёсьць інцыдэнт Гудсона з Вольтатам. Высокі нямецкі ўрадавец Мін. Зам. Гандлю Вольтат паехаў у Лёндан, афіцыяльна на „конфэрэнцыю лоўлі кітоў“. Аказалася, аднак, што кітамі там не займаліся, але затое йшлі гутаркі між Вольтатам і англ. міністрам замежнага гандлю Гудсонам у справе ліквідацыі існуючага між Нямеччынай і Англіяй напружаньня. У гэтых гутарках прыймаў таксама ўдзел і Г. Вільсон, правая рука Чэмбэрлена. Г. Вільсон выдатна прычыніўся да „ліквідацыі“ чэхаславацкага канфлікту. Няма ніякага сумлеву, што аб гэтых гутарках ведаў і Чэмбэрлен. Гудсон запрапанаваў Вольтату згоду, а найгалаўнейшымі пунктамі яе былі тыя, у якіх Англія прапанавала Ням. 1 мільярд фунтаў штэрлінгаў **пазыкі** (каля 27 мільярдаў злотых) на пераход ням. ваеннага промыслу на мірны **і падзел рынкаў** між Ням. і Англіяй. Калі аб гэтых гутарках усе даведаліся, і Чэмбэрлен і немцы рашуча ад іх адгарадзіліся. Аднак, ужо пасьля гэтага запярэчаньня, газэты падалі вестку, што ў Англію едзе другі высокі ням. ўрадавец, Мартэнс, каб далей гэтыя гутаркі весьці. Аднача сна тармазіцца пазыка Польшчы, даўно абяцаная, дзеля нейкіх „тэхнічных“ прычын. Калі ўсё гэта зважыць, а таксама прыняць пад увагу, што ўрад Чэмбэрлена падтрымоўваецца вялікім англійскім капіталам і домініямі, якія вайны ня хочуць, дык трэба назваць надта вялікімі оптымістамі тых, каторыя кажуць аб цьвёрдай дэцызіі Чэмбэрлена ваяваць з Ням., як аб чымсь зусім пэўным. Здаецца, што Чэмбэрлен і цяпер не закінуў думкі аб згодзе з Нямеччынай.

**Д.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Сьмерць арц. Адварда Роппа.** Нядаўна памёр арц. А. Ропп, магілёўскі мітрапаліт. Нябожчык пакінуў аб сабе добрую памяць у беларусаў. Будучы віленскім біскупам, ён ня толькі не спраціўляўся ўвядзеньню беларускай мовы ў касьцёлах, але нават заахвочваў ксяндзоў-беларусаў, каб яны ўвадзілі беларускую мову там, дзе народ гэтага хацеў. Дзякуючы гэт-

# Гісторыя ў СССР і БССР.— Нашыя „ўсходнікі“.

Аб тым, што ў СССР узрастае маскоўскі нацыяналізм, газэты пішуць даўно. Што гэта цалком адказвае праўдзе, можна пераканацца і беспасрэдна з маскоўскіх радыёвых перадачаў, асабліва калі яны зьвязаны з гістарычнымі юбілеямі. Натуральна, усё былоб у парадку, каб гэты маскоўскі нацыяналізм ня быў імпэрыялістычным. Нажаль, аднак, ён мае іменна гэты характар і таму зьяўляецца вельмі небясьпечным для беларусаў. Кажучы аб узросьце маскоўскага нацыяналізму, ня трэба думаць, быццам ён выцісnуў зусім інтэрнацыяналізм. Апошні астаўся і вельмі зручна зжыўся з расейскім нацыяналізмам, хоць, здавалася, разам ім ніколі ня будзе месца.

Адраджэньне расейскага захопніцтва найлепш можна пазнаць з параўнаньня бальшавіцкіх адносінаў да гісторыі СССР і даўнейшай Расеі на працягу апошніх 20-ці гадоў. Пры Леніне выйшаў у сьвет падручнік гісторыі СССР Пакроўскага. Быў гэты падручнік апрацаваны поўнасьцю пры помачы г. зв. марксаўскага падыходу да гісторыі. Пакроўскі разлажыў, як кажуць, на лапаткі імпэрыялістычную гісторыю даўнейшай Расеі, апляваў найлепшыя ў ёй мамэнты і апрача бунтаў Разіна і Пугачова не знайшоў нічога годнага пахвалы. Перадаюць, што калі Ленін прачытаў гэты падручнік, дык вельмі ім захапіўся і сказаў, што з камуністычнага гледзішча нічога лепшага аб дарэвалюцыйнай Расеі напісана быць ня можа. Адпаведныя камісіі загадалі ўвясьці падручнік Пакроўскага ў савецкія школы. Шмат гадоў савецкая моладзь вучылася гісторыі СССР і даўнейшай Расеі паводле Пакроўскага.

Аднак, па нейкім часе, супроць гэтага камуністычнага падручніка пачуліся крытычныя галасы. Даказвалася, што іменна з камуністычнага гледзішча гэты падручнік дрэнны! Крытыкі закідалі, што Пакроўскі вельмі памыліўся, калі не знайшоў у гісторыі Расеі нічога добрага, што і ў даўнейшай Расеі былі падзеі і асабістасьці, якіх ня толькі ня можна аплёўваць, але якімі трэба гардзіцца нават камуністам. Пачалі шукаць гэтых падзеяў і асабістасьцяў. Спачатку асьцярожна казалі, што вось, прыкладам, прыняцьце хрысьціянства было пазытыўным здарэньнем, што добрымі князямі былі Александар Неўскі, Іван III, які зьбіраў Расею, Мінін, Пажарскі, а наўперад цар Пётр Вялікі, які раўняўся нават самаму Сталіну! Крытыкі ўсё больш дзівіліся, як гэта Пакроўскі, каторага пахваліў сам Ленін, не дагледзіў гэткіх важных пазытыўных здарэньняў і асоб. Нехта першы, спачатку нясьмела, крыкнуў „шкоднік“! Кліч быў падхоплены і ўсе згодна прызналі Пакроўскага шкоднікам. Пасыпаліся грозныя артыкулы. Падручнік „зьліквідавалі“, самога аўтара зьліквідаваць не ўдалося, бо ён ўжо ня жыў... Ня жыў і Ленін...

Выйшаў новы падручнік праф. Шэстакова, які шырока рэклямавалі, чыталі праз радыё і ўзялі ў савецкіх школах.

Праф. Шэстакоў, тасуючы таксама, як і Пакроўскі, марксаўскі падыход да гісторыі, дайшоў, аднак да зусім іншых вывадаў і, вось дзіва, процілежных Пакроўскаму! Ён імгліста ўспомніў аб „обще-русском“ паходжаньні маскоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў, ацаніў дадатна „Крещение Руси“, дзейнасьць князёў Алякс. Неўскага, Івана III, выганьне палякаў з Масквы 1613 г., далучэньне Украіны да Расеі 1654 г., дзейнасьць цара Пятра I, далучэньне Беларусі да Расеі і г. д. Падчыркнуў як агульную тэзу, што беларусы толькі тады жылі добра, калі былі злучаны з „вялікім расейскім народам“. Відаць, вывучэньне падручніка Шэстакова „савецкім народам“ прынясло добрыя плады, бо, за яго прыкладам, іншыя гісторыкі знаходзяць усё больш дадатных здарэньняў у мінуўшчыне Расеі, якіх не дагледзіў Шэстакоў! Падчырквaецца вялікае значэньне падзеяў 1812 г. (хоць Напалеон абяцаў зьнясеньне прыгону ў Расеі, а цар Аляксандар I аб гэтым ані думаў), зьвяртаецца ўвага на вялікія заслугі Кутузава. Цяпер абходзіцца 230-гадавы юбілей перамогі пад Палтавай у 1709 г. над швэдамі і асуджаецца востра спроба Мазэпы да аддзяленьня Украіны ад Масквы. А савецкі ваенны орган „Красная Звезда“ захапіўся нядаўна вялікім Суворавым, тым Суворавым, каторы раздавіў бунт Пугачова, злавіў самога „вора Емельку“ і даставіў у клетцы ў Маскву, дзе ён і быў публічна чацьвяртаваны. Трэба спадзявацца, што новыя пазытыўныя мамэнты з гісторыі Расеі будуць у гэткім-жа шпаркім тэмпе адкрывацца як і дагэтуль. На адно тут трэба зьвярнуць увагу, паіменна, якім гібкім аказаўся марксаўскі (камуністычны) спосаб дасьледваньня гісторыі. Памінаючы ўжо тое, што тасуючы яго можна дайсьці да процілежных вывадаў у навуцы (Пакроўскі — Шэстакоў), але ён памагае нейкім дзіўным спосабам адкрываць у гісторыі Расеі і дадатна ацэніваць з гледзішча камуністычнага якраз **тыя мамэнты**, каторыя пазытыўна ацэньвалі і „старарэжымныя“ расейскія гісторыкі! Ці не задзіўляючая згода пануе між камуністам Шэстаковым і імпэрыялістам Ілавайскім!

Ясна, што гэтая згода запанавала паміма цудоўнага марксаўскага дасьледваньня гісторыі. Проста цяперашнія камуністы перанялі імпэрыялістычныя мэты даўнейшай царскай Расеі і стараюцца іх ня толькі выпаўніць але і „перавыпаўніць“. Ацэньваючы дадатна тыя падзеі з гісторыі Расеі, каторыя сьведчаць аб яе імпэрыялізьме, камуністы апраўдваюць гэты імпэрыялізм **у мінуўшчыне.** Аб праводжаньні-ж яго **ў сучаснасьці** можа сьведчыць хоцьбы палажэньне гісторыі ў БССР.

Прыблізна да 1927 г. праца над гісторыяй Беларусі ў БССР разьвівалася даволі памысна. Зьявілася шмат вельмі вартасных гістарычных монографіяў. Працавалі гэткія беларускія сілы як праф. **Доўнар-Запольскі,** праф. **Пічэта, Даўгяла, Дружчыц, Шчакаціхін, Любаўскі** і іншыя. Выраблялiся і маладыя сілы. Абыймалі яны сваімі досьледамі ўсю гістарычную Беларусь, працы сваей аддаваліся з любоўю. Вельмі добра былі зарганізаваны і ведзены раскопкі ў Беларусі пад кіраўніцтвам бел. дасьледчыкаў **Палікарпавіча, Кавалені, Тарасенкі, Рынеўскага, Сербава** й іншых. Аднак, ўся гэтая праца ад 1927 г. пачала спатыкаць штораз большыя перашкоды з боку Масквы, якая ў канцы і зусім іх зьліквідавала. Маскоўскія камуністы тлумачылі гэта тым, што беларускія дасьледчыкі выказывалі лішне многа „буржуазнага патрыётызму“, любаваліся ў мінуўшчыне свайго краю, выхвалялі сваю гісторыю. Пакуль для камуністаў быў абавязваючым падручнік Пакроўскага, гэткія закіды можна было яшчэ зразумець. Калі-ж выйшаў падручнік

каму прыхільнаму адношаньню да бел. мовы, апошняя напр. у Дзісеншчыне і Вялейшчыне (у 1917 — 1919 г.) амаль выцісnula польскую. Трэба зацеміць, што ў гэткай сваей палітыцы біскуп Ропп спатыкаўся з проціdзеяньнем свайго найблізейшага акружэньня.

Нябожчык паходзіў з Віцебшчыны (каля Латгаліі).

Чэсьць Яго памяці!

**У Слонімшчыне баламуцтва.** „Zielony Sztandar" падае весткі аб пашырэньні ўплываў польскай „людовай" партыі (Stronnictwo Ludowe) ў Слонімшчыне. Там арганізуюцца нават паветавыя зьезды гэтай партыі. У партыю ўступаюць мясцовыя бел. сяляне.

Калі ўзяць пад увагу праграму гэтай партыі, яе тактыку, адношаньне да беларускай справы, дык зьяўляецца незразумелым, якім парадкам яна можа знаходзіць водгук у беларускай Слонімшчыне? Гэта партыя чыста польская, сялянству беларускаму нічога даць не можа, а да беларус. пытаньня адносіцца ў сутнасьці ня лепш за эндэкаў і іншых польскіх шовіністычных партыяў, трактуючы гэтае пытаньне ў найлепшым прыпадку як „рэгіёнальнае". Калі ўважна сачыць за весткамі „Z. Szt.", дык можна праканацца, хто гэтую партыю ў Слонімшчыне пашырае. Пашыраюць яе збанкрутаваныя мясцовыя беларус. „палітыкі". Раней яны пашыралі „усходнія" ўплывы, пазьней „людовы" фронт, а цяпер зрабіліся польскімі „людоўцамі". Прыпамінаецца адзін факт, паданы „Нашай Воляй" некалькі гадоў назад, калі многа гаварылася аб польскім „людовым" фронце. Адна слонімская вёска сабрала штосьці каля 15 зал. і выслала іх на падтрыманьне нейкай пэпээсаўскай польскай работніцкай арганізацыі ў Кракаве, каб гэтым заманіфэставаць сваю „лучнасьць" з польскімі працоўнымі ў супольным фронце. У гэты самы час газэты пісалі аб няўраджаю і голадзе на Палесьсі — суседзяў гэтай слонімскай вёскі.

# На беларускім грунце

## НЕЗРАЗУМЕЛАЕ СТАНОВІШЧА.

На наш артыкул аб беларуска-літоўскіх адносінах адклікнулася „Chr. Dumka". З ейнай зацемкі выходзе, што беларусы ня маюць ніякага права пісаць аб тым, што няпрыемна літоўцам. „Chr. D." уважае, што літоўцы могуць пашыраць сваё захопніцтва на чыста беларус. землі, а беларусам супроць гэтага пісаць ня можна, бо гэта мае шкодзіць... добрым адносінам бел.-літоўскім. Гэткае становішча вельмі шкоднае з гледзішча беларускага. Калі адна старана супроць самаазначэньня народаў, імкнецца урваць чужы кусок і то не малы, тады, наагул, ня можна гаварыць аб добрых суседзкіх адносінах. Можна на гэта зачыняць вочы, але гэта дрэнны спосаб на падтрыманьне добрых адносінаў. Апошнія могуць устанавіцца толькі тады, калі ўсе супярэчнасьці будуць выясьнены.

Мы і хочам гэткага выясьненьня і думаем, што літоўцы, пачуўшы бел. пратэст, самі адмовяцца ад сваіх беспадставых мэтаў. А калі „Ch. D." лічыць падыманьне гэтай справы з боку беларускага „не актуальным", тады, цікава, чаму „Ch. D." ня вытыкае гэтага літоўцам, каторыя ўжо дваццаць гадоў крычаць на ўвесь сьвет аб „слушнасьці" свайго захопніцкага становішча. Відавочна літоўцы маюць у гэтым нейкую карысьць, а „Ch. D." ім спагадае.

Напасьледак дарэмна „Ch. D." паклікаецца на „Беларусь Працы" С. Сарокі. Не памятаем добра артыкулаў „Б. П." ў літоўскай квэстыі, аднак калі „Б. П." выступала супроць літоўскага захопніцтва і імкнулася да выясьненьня гэтай справы для дабра абодвух народаў, дык з гэтага гледзішча мела поўную рацыю, якой „Ch. D." ня мае.

Ніхто з польскіх працоўных ня прыйшоў ім з помаччу, ня прыйшла і свая слонімская вёска, аж надта можа „сьведамая". Усе гэтыя падзеі сьведчаць аб надта прэцызыйнай рабоце мясцовых янычараў, з паходжаньня беларусаў. Гэтыя янычары шукаюць сабе пана, без якога хвіліны жыць ня могуць, кідаюцца з аднаго боку ў другі і цягнуць за сабой абаламучаных бел. сялян. Тыповы прыклад, да чаго можа давесьці духовае прадажніцтва. Бо калі гэтыя „беларусы" думаюць весьці ў рамах „людовай" партыі бел. работу, дык яны вельмі мыляюцца: „Людоўцы" не дазволяць ім на гэта. А каліб нават ім і ўдалося зладзіць якоесь бел. прадстаўленьне, дык яно ніколі не зроўнаважыць тых страт, якія прынясе беларушчыне выхаваньне ў духу польскай партыі, гэткай як „людоўцы" і адцягваньне бел. сялянства ад свайго бел. руху.

## ВЕЧАР БЕЛ. ЛІТАРАТУРЫ Ў ВАРШАВЕ.

З Варшавы мы атрымалі весткі аб тым, як адбыўся вечар бел. літаратуры 3.VII. ў Праф. Саюзе Польскіх Літаратараў. На гэтым вечары агульны рэфэрат аб бел. літаратуры прачытаў гр. Гінько, а потым выступаў ведамы наш паэт М. Танк. На вечар сабралося больш 50 польскіх пісьменьнікаў і паэтаў. Зборку адчыніў старшыня Саюзу акадэмік літаратуры **Ф. Гэтэль,** які сказаў наступную прамову: — Вітаю сябру Танка як прадстаўніка літаратуры братняга народу. Трэба адзначыць, што ў працяг дваццаці гадоў не зрабілі мы ніякага збліжэньня на літаратурнай ніве. А збліжэньне на гэтай ніве з народам беларускім і ўкраінскім павінна быць першай нашай патрэбай. Шмат было віны ў гэтым з боку ўспомненых народаў, але найвялікшая віна ляжыць па нашай старане. Цяпер гэтыя нястачы трэба адрабіць.

Танк рэцытаваў свае вершы, спатыканыя воплескамі. Зачыняючы зборку, акад. Гэтэль выказаў радасьць з прычыны пазнаньня перадавога бел. паэта і яго творчасьці.

Вечар трываў больш трох гадзін. У гутарках польскіх літаратараў чутны былі словы: „бел. літаратура мае чым гардзіцца", „паэт на адпаведнай вышыні".

У канцы наш карэспандэнт слушна пытаецца, ці словы акад. Гэтэля аб патрэбе бліжэйшага літ. кантакту з беларусамі ёсьць шчырымі? (Гэтэль нядаўна выступаў у „Kur. Porannym" супроць усяго беларускага)...

З польскай прэсы зацемку аб вечары зьмясьціла „Polska Zbrojna", пішучы між іншым: „нядаўна прыехаў у Варшаву ведамы бел. паэт М. Танк, прыгожая паэзія катарага ведама польскім чытачом з перакладаў. Тыднёвік „Kronika Polski i Świata" піша, што хутка мае выйсьці зборнік вершаў „tego doskonałego poety" ў польскім перакладзе К. Яворскага.

Аб вечары 3.VII. зьмясьцілі артыкул „Wiadomości Literackie", у якім творчасьць Танка ацэньваецца надта прыхільна. „W. L." пішуць, што на тварах польскіх літаратараў, слухаўшых Танка, можна было вычытаць зайздрасьць... Гэты артыкул перадрукаваў „Kurier Wileński" (22.VII).

У ваднным ня можна згадзіцца з „Wiad. Lit." і „Kur. Wil." — гэта ў параўнаньні Танка з рас. паэтам Есеніным. Магчыма, некаторыя вершы Танка могуць насоўваць гэткую думку, але ўся творчасьць Танка даказвае, што гэта паэт конструктыўны і дынамічны і з гэтага гледзішча нават процілежны Есеніну!

## ВІЛЕНСКАЯ БЕЛ. ГІМНАЗІЯ.

29.VIII.1939 г. пачнуцца ўступныя экзаміны ў Беларускай філіі дзяржаўнай гімназіі ім. Ад. Міцкевіча (Вільня, вуліца Дамініканская 3—5). Заявы прыймаюцца да 29.VII 1939 г.

---

Шэстакова, дык лёгічна думаючы, можна было спадзявацца палёгкі і для бел. вучоных. Раз камуністычная доктрына дазваляла расейскім гісторыкам шукаць вялікіх і дадатніх здарэньняў у рас. мінуўшчыне, нічога, здавалася, не стаяла на перашкодзе рабіць гэта і беларусам. Тымчасам сталася інакш. З выхадам гісторыі Шэстакова, усякія досьледы бел. гісторыкаў над сваей мінуўшчынай зрабіліся немагчымымі нават у дасюлешніх рамах. Маскоўскія ўлады згары ўлажылі зьмест белар. гісторыі і азначылі, што яна „павінна" даказаць. З гэтыі самай загадамі Масквы знаёміць нас **„Літаратура і Мастацтва"** (ліпеньжнівень 1938 г.). Бел. гісторыя павінна даказаць, што бел. народ да злучэньня з Расеяй не меў ніякай собскай гісторыі. Ён быў паняволены і праз усе стагодзьдзі толькі імкнуўся да злучэньня з „вялікім расейскім народам", у якім бачыў старэйшага брата і апякуна. Далучэньне да царскай Расеі ўжо несло бел. народу вялікія карысьці, але, натуральна, „поўную" свабоду і „незалежнасьць" ён атрымаў ад бальшавікоў у 1917 г., якія „памаглі" бел. народу „вызваліцца". Ніякіх сьветлых мамэнтаў у сваей гісторыі бел. народ ня меў і іх выдумываюць толькі „буржуазныя нацыяналісты" — вышэй пералічаныя бел. гісторыкі.

А калі так, дык белар. народ „павінен" прысабечыць гісторыю „старэйшага свайго брата — вялікага рускага народу". Гэта мае „даказаць" бел. гісторыя паводле маскоўскіх камуністычных захопнікаў. „Гэраічнымі" падзеямі ў бел. гісторыі маюць быць перш за ўсё тыя часы, калі бел. землі „вярталіся" да Расеі, хоць гэта было зьвязана з масавым нішчэньнем і высяленьнем у Расею белар. народу маскоўскімі царамі (прыкладам з Пскоўшчыны, Полачшчыны, Смаленшчыны) і наплывам на месца выселеных маскоўцаў. Любыя бальшавікам маскоўскія князі і цары маюць быць і героямі бел. народу.

**„Літар. і Мастацтва"** падае, што ўжо загадана апрацаваць у гэткім духу „падручнік" беларус. гісторыі і што „працы" вядуцца. Што будзе ня згодна з гэткім духам, мае быць адкінена. Тут мы бачым яшчэ адзін доказ нязвычайнай гібкасьці марксаўскага тлумачэньня гісторыі. І на прыкладзе бел. гісторыі „навуковы" марксізм нейкім дзіўным спосабам аказаўся вельмі карысным маскоўскаму захопніцтву, а некарысным беларусам. Натуральна, пры гэткай пастаноўцы справы, хто-ж адважыцца пісаць аб праўдзівых і вялікіх беларусах у гісторыі, хоцьбы прыкл. аб **Прадславе і Ўсяславе** полацкіх, **Скарыне, Цянінскім, Л. Сапезе, Г. Хадкевічу,** гаспадарох Вял. Княства, бараніўшых беларускасьці, аб адвечнай абароне бел. народам сваей незалежнасьці і імкненьнях да яе, аб перамогах беларусаў над маскоўцамі, аб беларус. мастацтве, аб бясспрэчнай культурнай перавазе беларусаў над маскоўцамі ў гісторыі, аб культурных уплывах беларушчыны на маскоўцаў? Пісаць аб гэтых рэчах абсалютна немагчыма, а дасюлешнія працы бел. гісторыкаў у гэтым духу прызнаны „шкоднымі", хоць апіраліся на бяспрэчных жаролах і хоць афіцыяльна ў СССР прызнаецца свабода навукі. Гэтая свабода ёсьць для расейскіх дасьледчыкаў, але яе абсалютна няма для беларусаў.

Тут маскоўскі захопніцкі нацыяналізм аказаўся бескампраміснім. Цікава, што ў змаганьні з беларус. навуковым „сэпаратызмам", маскоўскія камуністы, калі для іх карысна, паклікаюцца і на інтэрнацыянал, які ня можа дапусьціць гэтага навуковага сэпаратызму з „буржуазным нахілам" ў „братніх" народаў... Напасьледак, трэба зацеміць, што ўсе бел. навуковыя сілы, працаваўшыя ў „лепшыя" часы бальшавізму ў Менску, цяпер расьцярушаны па розных мясцінах СССР.

Да рэчы будзе зацеміць, што ідэнтычна з гісторыяй Беларусі, пастаўлена ў БССР і гісторыя беларускай літаратуры з этнографіяй. Але гэта асобныя пытаньні і да іх мы пры аказіі вернемся.

Сярод беларусаў тут, у нас, спатыкалася вельмі шмат такіх, якія ар'ентаваліся на Маскву. Гэтым „усходнікам" здавалася, што толькі з Масквы магло прыйсьці збаўленьне, а як на доказы гэтага яны паклікаліся на культурныя здабыткі беларусаў у БССР. Запраўды, гэтыя культурныя здабыткі беларусаў у БССР да 1927 г. былі даволі значныя, хоць і яны ніяк не маглі апраўдаць поўнай арыентацыі на Маскву. Цяпер сытуацыя цалкам зьмянілася, бо адрадзіўся даўнейшы захопніцкі расейскі нацыяналізм. Старыўся стан даваенны, а можа нават і горшы, бо да вайны была нейкая свабода навукі існавала ў Расеі нават для слабейшых народаў.

Прыклад з гісторыяй у СССР і БССР ясна паказвае, што гэты захопніцкі нацыяналізм вярнуўся на старыя шляхі асыміляцыі (русыфікацыі) „братніх" народаў. Гэта бяспрэчная праўда і ня відзець яе могуць толькі сьляпыя. У гэткіх варунках арыентавацца на Маскву могуць толькі тыя беларусы з паходжаньня, каторыя ў душы свае з тых ці іншых прычын зьяўляюцца проста расейцамі. Гэткія „беларусы" будуць глядзець на Маскву нават і тады, каліб яна зусім зьнішчыла бел. народ. І ў гэтым прыпадку іхнімі „нац. героямі" будуць князі Іван III, Алякс. Неўскі, цар Пётр I, Кутузаў, Сувораў і, натуральна тыя, хто нішчыць наш народ. Не аб гэтых „беларусах" мы гаворым. Мы маем на думцы тых беларусаў, „усходнікаў", якіх слова „беларус" да нечага абавязвае і якія могуць здабыцца на самастойную крытыку. Гэткіх людзей ёсьць шмат. Вось-жа нам здаецца рэччу немагчымай, каб гэтыя „усходнікі" згадзіліся прысабечыць расейскую гісторыю і адкінуць сваю беларускую, інакш, каб згадзіліся ў душы быць расейцамі, а вонкава беларусамі.

Разумеем захапленьне чыстым інтэрнацыяналам і камунізмам, але не расейска-камуністычным захопніцкім нацыяналізмам. Бо што іншае праўдзівае сужыцьцё народаў, прынамся ў тэорыі, а што іншае нішчэньне слабейшых народаў у практыцы, апраўдыванае сфальшаванай тэорыяй. Пастаноўка бальшавікамі справы, хоцьбы гісторыі, рашуча выключае магчымасьць маскоўскай арыентацыі нашых „усходнікаў", натуральна здольных да думаньня і крытыкі. Іх можа цягнуць яшчэ да Масквы спосаб урэгуляваньня там сацыяльнай праблемы. Але гэта толькі міраж.

Калі заламалася тэорыя ў сваіх фундамэнтах, дык яе ні можа ратаваць уцалеўшыя частка. Ды, напасьледак, квэстыю сацыяльную можа найлепш урэгуляваць сам бел. народ, калі зьдзейсьніць свае нац. мэты.

Падзеі маскоўскія, хоцьбы ў разгледжаным тут маштабе, лучна з агульна-сусьветнымі, паказваюць, што для нашых „усходнікаў" настаў апошні час павароту на нацыянальны беларускі шлях, які яны дагэтуль абміналі.

**М. Ш.**

---

**ВЫПІСВАЙЦЕ і ПАШЫРАЙЦЕ „БЕЛАРУСКІ ФРОНТ".**

# На міжнародным ґрунце

## АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

У другой палавіне ліпня адбывалася далейшае групаваньне сілаў двух варожых сабе блёкаў дзяржаў і стараньне кожнай стараны прыцягнуць новых саюзьнікаў, а з другога боку выявіліся спробы мірнага заканчэньня існуючага між двама галоўнымі праціўнікамі Англіяй і Нямеччынай напружаньня. Гэтыя апошнія спробы паказваюць, што за шырмамі ідзе вельмі ажыўленая дыплёматычная акцыя, вынікаў каторай пакуль што прадбачыць ня можна. Групаваньне сілаў варожых сабе блёкаў ішло ў кірунку здабыцьця для англійска-францускага Саветаў, а для нямецка-італьянскага Гішпаніі. Англійска-савецкія гутаркі вядуцца ў Маскве ўвесь час, і як падаюць газэты, быццам памысна. Маюць выехаць у Маскву англійская і француская ваенныя місіі, хоць паразумленьне яшчэ не падпісана. Невядома аднак, ці сапраўды ў маскоўскіх перагаворах наступіў памысны паварот, бо афіцыяльных урадавых асьведчаньняў у гэтым сэнсе ня было ані з англійскай, ані з савецкай стараны.

Ням.-італ. блёк стараецца выразна перацягнуць на свой бок Гішпанію. У Гішпаніі на старане Ням. і Італіі стаіць „фалянга“ (фашыстоўская партыя) на чале з мін. Сунэрам. Яна ідзе на поўны саюз з восьсю. Нэўтральнай палітыкі ў магчымай будучай вайне трымаецца група ўплывовых гэнэралаў на чале з Кэйпо дэ Льяно. Сам Франко да апошняга часу быў нездэцыдаваны. Адведзіны гэн. Франко італьянскім мін. Чыяно ў пачатках ліпня, здаецца, перацягнулі яго на старану „фалянгі“, бо пасьля ад'езду Чыяно Франко „зьліквідаваў“ групу нэўтральных гэнэралаў і нават арыштаваў найбольш уплывовых, а гэн. Кэйпо дэ Льяно выслаў на амбасадара ў далёкую Аргентыну. На чало выбіўся мін. Сунэр, адданы восі. Гэткім парадкам Гішпанія ўсё ясьней дэкляруе сваё становішча. Акангчальна яно выясьніцца, трэба думаць, у верасьні, калі Франко прыедзе ў Рым.

## „МЮНХЭНСКІЯ“ ПАВЕВЫ.

У другой палове ліпня ў Бэрліне адбылася прэсавая канфэрэнцыя, на якой высокі ням. урадавец сказаў, што Нямеччына ня хоча вайны за Гданск, а спадзяецца далучыць гэты горад да Райху мірным парадкам, у чым ёй павінна памагчы Англія праз адпаведны націск на Польшчу. Як бы ў вадказ на гэта маршал Рыдз-Сьміглы заявіў, што Польшча будзе змагацца за Гданск нават адна бяз помачы саюзьнікаў. Калі складаліся гэтыя заявы, у Лёндане адбываліся гутаркі між ням. дэлегатам Вольтатам, прыехаўшым афіцыяльна на канфэрэнцыю ўрэгуляваньня лоўлі кітоў і англійскім мін. Гудсонам у справе мірнага зьліквідаваньня ням.-англійскага напружаньня. У гэтых гутарках прыймаў учасьце і Г. Вільсон — правая рука Чэмбэрлена. Гудзон высунуў прапазыку, што калі Ням. зрачэцца сваей агрэсіі ў Эўропе і разаружыцца зусім, або часткова, тады Англія дасьць ёй пазыку ў суме 1 мільярда фунтаў штэрлінг., адчыне ей доступ да сыравіны і згодзіцца на падзел сусьветных рынкаў. Калі гэныя гутаркі сталіся ведамымі, Англія і Нямеччына запярэчылі, каб яны на штось падобнае маглі згадзіцца. Усёж гэты інцыдэнт выклікаў вялікае ўражаньне ўва ўсім сьвеце. Газэты дагэтуль аб ім пішуць, чуючы ў гэтым павеў „мюнхэнскага“ духу.

## АНГЛ. ПАЗЫКА ПОЛЬШЧЫ.

Толькі нядаўна былі пададзены да публічнага ведама вынікі 6-тыднёвых англійска-польскіх гутарак аб пазыцы. Аказалася, што Англія згадзілася даць Польшчы 8 мільёнаў фунтаў штэрл. крэдыту ў таварах (ваенных матарыялах). Гутаркі аб грашовай пазыцы ў суме 8 з пал. міл. фунтаў пакуль-што скончыліся нічым. Разбіліся яны з прычыны надта цяжкіх англійскіх варункаў. Ці толькі гэтыя „тэхнічныя“ перашкоды не давялі да паразумленьня, ці, магчыма, былі і перашкоды палітычныя, як дапушчаюць некаторыя газэты, невядома. У кажным прыпадку Англія тут ня толькі не дала сваей часткі пазыкі (5 міл.), але канцэнтруючы гутаркі ў Лёндане, перашкодзіла даць сваю частку і Францыі (3 з пал. міл.), бо агульная сума пазыкі 8 з пал. міл. мела быць пакрыта Англіяй і Францыяй у паказаных частках. Далейшыя гутаркі аб пазыцы будуць, быццам, у восені.

## НЯМЕЧЧЫНА — ІТАЛІЯ.

Саюз між гэтымі дзяржавамі паглыбляецца. Італьянская прэса, ідучы за нямецкай, нападае надта востра на Польшчу, яе армію, маршалка. Гэта тады, калі Італія ня мае за што сварыцца з Польшчай! На паглыбленьне адносін паказвае згода Гітлера на высяленьне 250.000 немцаў з італьянскага Тыролю ў Нямеччыну. Тыроль быў далучаны да Італіі ў выніку сусьветнай вайны. Відаць, Муссоліні баяўся, каб Гітлер у будучыне не заявіў сваей прэтэнсіі на гэты Тыроль. Згоду Гітлера на высяленьне тырольскіх немцаў лічаць вялікай ахвярай на карысьць Італіі. „Kur. Polski“ піша, што калі Гітлер, пасьля далучэньня Аўстрыі, выслаў Муссоліняму тэлеграфічную падзяку за яго нэўтральнасьць, у якой сказаў, што ніколі аб гэтым не забудзе, дык, даючы сваю згоду на высяленьне тыр. немцаў, Гітлер гэтага слова датрымаў. У кожным прыпадку гэты факт паказвае, наколькі Нямеччына цэніць помач Італіі.

## НА ДАЛЁКІМ УСХОДЗЕ.

У другой палавіне ліпня наступіла згода між Англіяй і Японіяй на Далёкім Усходзе. Згода гэтая зьліквідавала канфлікт між Англіяй і Японіяй, які паўстаў з прычыны японскай блёкады англійскіх канцэсіяў. Варункі гэтай згоды сьведчаць аб вялікіх уступках Англіі на карысьць Японіі. Англія згадзілася прызнаць новае палажэньне ў Кітаі, створанае японска-кітайскай вайной (а значыцца перавагу Японіі) і забавязалася не памагаць Чанг-Кай-Шэку. Нямеччына і Італія ацанілі гэтую згоду як доказ слабасьці Англіі. Нязвычайная ўступчывасьць Англіі выклікала также зьдзіўленьне ў некаторых англійскіх і францускіх кругох. Аднак бальшыня англ. і франц. прэсы ацаніла гэты факт як жаданьне Англіі мець супакой на Дал. Усх. і сканцэнтраваць усе свае сілы ў Эўропе, дзе можа быць канфлікт з Нямеччынай.

Пасьля гэтай згоды, Злучаныя Штаты Паўн. Амэрыкі папярэдзілі Японію, што яны ў канцы студня 1940 году анулююць амэрыканска-японскі гандлёвы дагавор з 1911 г. Гэты шаг Амэрыкі ацэньваюць, як паважную пагрозу Японіі, бо яе ваенны промысел залежыць у 75 проц. ад гандлю з Амэрыкай і Англіяй. Выказваецца пры гэтым думка, што каб Амэрыка выступіла раней, дык, магчыма, Англія не пайшлаб на ўступкі Японіі. Трэба лічыць гэткія разважаньні надта оптымістычнымі. Папершае — ня ведама, што мае на мэце Амэрыка, адмаўляючыся ад старога ўжо дагавору, хутчэй за ўсё пойдзе на новы, для сябе выгаднейшы, а падругое—Амэрыка ведала палажэньне Англіі, напэўна зь ёй камунікавалася і калі ня выступіла перад англійска-японскай згодай, дык хіба мела паважныя прычыны. Апошнімі днямі прыйшлі весткі, што Англія, згадзіўшыся прызнаць новае палажэньне ў Кітаі і спыніць дапамогу Чанг-Кай-Шэку, ня хоча пайсьці на трэці японскі варунак— завесьці на тэрыторыі сваіх канцэсіяў валюту новага кітайскага ўраду, створанага японцамі і скасаваць дасюлешнюю валюту Чанг-Кай-Шэка, якую прызнавала.

Новая палітыка Англіі выклікала вялікія засьцярогі з боку Чанг-Кай-Шэка. Ён зразумеў, што Англія яго адракаецца. Гэткі стан стараюцца выкарыстаць бальшавікі, якія, як падалі газэты, пазычылі Чанг-Кай-Шэку 150 мільёнаў рубл. золатам.

## ЯПОНСКА - САВЕЦКІ КАНФЛІКТ.

„Малая“ японска-савецкая вайна цягнецца далей. Як выглядае з камунікатаў, якія выдаюць японцы і бальшавікі, абедзьве староны перамагаюць... Апошнім часам пагражае новы канфлікт між Японіяй і Саветамі — з прычыны Сахаліну. Савецкая частка Сахаліну мае багатыя жаролы газы, на якія квапяцца японцы, асабліва з таго часу, калі Саветы пачалі перашкаджаць японскім прамыслоўцам эксплёатаваць гэтыя жаролы. „Czarno na białem“ слушна кажа, што японцы даўно забралі б савецкую палову Сахаліну сілай, каб мелі пэўнасьць, што ім удасца захапіць жаролы газы ў цэласьці. Японцы гэтай пэўнасьці ня маюць, бо бальшавікі, адступаючы, падпаляць гэтыя жаролы і зьнішчаць увесь газавы промысел на Сахаліне, без якога востраў ня мае вартасьці. Канфлікт з прычыны Сахаліну завастраецца, што яшчэ больш пагаршае японска-савецкія адносіны.

## СТАНОВІШЧА АМЭРЫКІ.

У чэрвені г. г. англійская каралеўская пара адбыла далёкае падарожжа ў Канаду і ў Злуч. Штаты Паўн. Амэрыкі. Газэты пісалі, што мэтай гэтага падарожжа было навязаньне бліжэйшых зносінаў з Канадай (якая зьяўляецца англійскай дамініяй) і Злуч. Штатамі, а асабліва прыцягнуць Зл. Штаты да англійска-францускага блёку. Зараз пасьля павароту караля з гэтага падарожжа пісалі, што яно ўдалося і было вельмі на часе. Тымчасам, далейшая палітыка Зл. Штатаў паказвае, што, ў гэтай дзяржаве падарожжа англійскага караля ня мела вялікшага значэньня. Выявілася гэта пры дэбатах над зьменай абавязваючага ў Зл. Штатах закону аб нэўтральнасьці на прыпадак вайны. Згодна з гэтым законам Зл. Штаты ў будучай эўрапэйскай вайне маюць астацца нэўтральнымі і не вывазіць аружжа і ваенных матарыялаў у ваюючыя дзяржавы. Прэзыдэнт Рузвэльт і яго прыхільнікі зьяўляюцца праціўнікамі гэтага закону і кажуць, што Зл. Штаты ў будучай вайне ня могуць астацца нэўтральнымі, што аб гэтым павінны ўжо цяпер заявіць усяму сьвету, а найлепшай дэманстрацыяй гэткага становішча Зл. Штатаў былаб зьмена ў вадпаведным кірунку закону аб нэўтральнасьці. І хоць прэзыдэнт Рузвэльт мае вялікі асабісты аўтарытэт у дзяржаве і многа прыхільнікаў, усёж яго стараньні аб рэвізіі закону нэўтральнасьці не далі пакуль што выніку. Кангрэс невялікай бальшынёй галасоў адкінуў прапазыку прэзыдэнта аб зьмене закону. Справа гэтая мае яшчэ раз разглядацца ў студзені 1940 г. Ці тады зьмена закону будзе праведзена, ніякай пэўнасьці няма. Некаторыя кажуць, што нявыразнае становішча Амэрыкі ёсьць падобным да пазыцыі Англіі ў 1914 г. напярэдадні выбуху сусьветнай вайны. Тады Англія также хісталася, а немцы зрабілі з гэтага выснаў, што яна астанецца нэўтральнай і пачалі вайну.

Другім праявам хістаньня Зл. Штатаў ёсьць іхняя палітыка ў справе англійска-японскага канфлікту на Дал. Усходзе. Пасьля таго, як Англія, непадтрыманая рашуча нікім, пайшла на згоду з Японіяй, Зл. Штаты раптам папярэдзілі на шэсьць месяцаў Японію, што яны анулююць амэрыканска-японскі гандлёвы дагавор 1911 г. Кажуць, што калі б Штаты зрабілі гэта раней і ў паразумленьні з Англіяй дык апошняя не згадзілася-б на гэткія вялікія ўступкі Японіі.

Гэтыя факты бяспрэчна паказваюць, што пазыцыя Амэрыкі пакуль што ёсьць нявыразнай! Яна спагадае англійска-францускаму блёку, прадае яму цяпер аружжа, але падпарадкаваць сваей палітыкі гэтаму блёку пакуль што ня хоча.

## РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— Палажэньне ў Гданску далей астаецца напружаным. Газэты пішуць, быццам Фэрстэр часта адведвае Гітлера і атрымоўвае ад яго інструкцыі. Апошняя візыта мелася быць 1.VIII.

— Каб ня выклікаць партыйнай барацьбы ў сучасным трывожным палажэньні, францускі ўрад прадоўжыў кадэнцыю цяперашняга франц. парляманту, адкладаючы выбары да 1942 г. Аднача́сна ў Францыі і Англіі пачалося рашучае змаганьне з нямецкім шпіёнствам.

— У другой палавіне ліпня прыяжджаў у Польшчу англ. ген. Айронсайд (Ironside) і вёў гутаркі з польскімі генэраламі.

— Англія, відавочна, каб падчыркнуць цесны саюз з Францыяй, зарганізавала палёты англійскіх аэрапланаў над тэрыторыяй Францыі і зьбіраецца зрабіць гэткі палёт на Блізкі Ўсход.

— 31.VII. у газэтах зьявіліся весткі, быццам у Лёндан мае выехаць нямецкі марш. Гэрынг дзеля перагавораў. Выезд гэты лучаць з інцыдэнтам Гудсон-Вольтат, аб якім пішам вышэй. Мае ён быць праявам добрай волі з боку Нямеччыны, каб мірным парадкам зьліквідаваць эўрапэйскае напружаньне. „Wieczór Warszawski“ дадае, што і місія Гэрынга павінна скончыцца няўдачай, як і яго папярэдніка Вольтата, бо калі б Англія, супроць свайго становішча, згадзілася на гутаркі з ім аб успакаеньні Эўропы, дык не маглаб рабіць гэтага за плячмі Польшчы.

— 31.VII. у англійскім парлямэнце выступаў Чэмбэрлен і даваў выясьненьні аб бягучых палітычных справах. На вострую крытыку пасла Дальтона (англ. партыя працы) ў справе выніку польска-англійскіх гутарак аб пазыцы, Чэмбэрлен адказаў, што нічога ня можа дадаць да выясьненьняў мін. фін. Саймона ў гэтай справе (Саймон паклікаўся на тэхнічныя перашкоды). У справе маскоўскіх перагавораў Чэмбэрлен выясьніў, што яны пасоўваюцца наперад. Дагэтуль, аднак, ёсьць труднасьці галоўна над азначэньнем, як трэба разумець „пасярэднюю“ агрэсію („пасярэдняя“ агрэсія паводле Саветаў мелаб месца тады, калі б у прыбалтыцкіх дзяржавах наступілі гэткія нутраныя зьмены, пры якіх гэтыя дзяржавы сталісяб фактычна залежнымі ад Нямеччыны). На прапазыцыю Молатава англійскі і францускі ўрады згадзіліся яшчэ да канца перагавораў выслаць у Маскву ваенныя місіі дзеля паразумленьня штабаў. Молатаў меў падчыркнуць, што гэта маглоб карысна адбіцца на палітычных гутарках. У справе Гданску Ч. агульна заявіў, што ня мае нічога дадаваць да сваей заявы з дн. 10.VII.

— У жніўні і верасьні, найбольш небясьпечных паводле англійскага ўраду месяцах, Англія будзе трымаць пад аружжам мільён войска.

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski. Druk. M. Bogatkiewicza i Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.